Opłata pocztowa opłacona ryczałtem. Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 39. Вільня, 17 сьнежня 1927 году. Год I.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

## ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
| --- | --- | --- |
| Wilno (Вільня), Ціхая вуліца № 4, (альбо Міцкевіча № 15) кват. № 20. Тэлефон № 1207. | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за $^1/_2$ — 65, за $^1/_4$—35, за $^1/_8$—20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

## Аб польска-літоўскай спрэчцы.

Польшча і Літва ў гістарычнай мінуўшчыне мелі шмат супольнага. Перажывалі разам вялікія гістарычныя надзеі, баронячыся ад нямецкага націску на істнаваньне незалежнасьці гэтых дзяржаваў.

Злучаныя ў адну дзяржаву, пасьля Люблінскай вуніі 1569 г. разам утварылі найбольшае гаспадарства на ўсходзе Эўропы.

У выніку злучэньня Літвы з Польшчай, Літоўска-Беларускія землі падпалі пад вялікія культурныя ўплывы Польшчы і з бегам часу беларуская і літоўская шляхта спалянізавалася, прыняўшы польскую мову і звычаі.

Літоўская мова, як і беларуская, жыла ў сялянстве,

Пасьля разбору Польшчы трома каранованымі дэспатычнымі валадарамі жыцьця і сьмерці мільёнаў сваіх падданых — прускім каралём, аўстрыяцкай каралевай і расейскай царыцай, літоўска беларускія землі адышлі да царскай Расеі. Толькі частка этнаграфічная Літвы з літоўскім насельніцтвам апынулася пад Прусіяй (Нямеччынай).

Расейскія ўрады ў адносінах да забранага ад Польшчы краю стасавалі ўсялякую палітыку русыфікацыі цераз царкву і ўрадовы апарат. Яны абявілі Беларусь ды Літву „ісконі рускім“ (ад вякоў расейскім) краем і хацелі выкараніць з гэтага краю ўсё, што не насіла характару расейскага. Асабліва варожа адносіліся самадзяржаўныя расейскія цары і ўвесь урадовы апарат да беларускае і літоўскае культуры. Яны хацелі забіць яе ў карані, адабраць самую магчымасьць культурнага разьвіцьця літоўскіх і беларускіх прыгнечаных народных масаў. Расейскі ўрад забараніў друкаваць кніжкі і газэты палітоўску і пабеларуску.

Толькі ў той часьці Літвы, якая знайшлася пад Нямеччынай, ужывалася літоўская мова ў касьцёле ды друкаваліся кніжкі ў літоўскай мове. Дзякуючы гэтаму, адтуль адтрымоўвалі ліцьвіны друкаванае слова, якое будзіла сьвядомасьць літоўскіх сялянскіх масаў. Там у Нямецкай Літве пачаў сваю працу павадыр літоўскага адраджэньня д-р Басановіч, памёршы ў 1927 г. у Вільні.

Літоўскае адраджэньне пачалося некальні дзесяткоў гадоў раней, чым беларускае, іменна дзякуючы той рабоце, якую рабілі ліцьвіны з-пад Нямеччыны, дзе ня душылі так як у Расеі, літоўскага друкаванага слова.

У пачатку XX стагодзьдзя пазволяна было і тут (пад Расеяй) друкаваць палітоўску.

Літоўцы мелі ўжо тады сваю інтэлігенцыю, якая ўзялася за культурную і палітычную работу для дабра свайго народу.

Ксяндзы пачалі гаварыць пропаведзі ў касьцёлах палітоўску, ў Вільні пачалі выходзіць газэты, друкавацца кніжкі, і Вільня зрабілася цэнтрам літоўскага адраджэнскага руху, хоць у Віленшчыне ліцьвіноў няшмат, а ў самым горадзе Вільні таксама мала. Бо ведама, што Віленшчына заселяна галоўным чынам беларусамі. Але Вільня некалі была сталіцай Літоўска-Беларускага княжаства, і ліцьвіны пачаўшы думацьаб незалежнасьці свайго краю, заўсёды думалі аб горадзе Вільні, як аб будучай сталіцы гэтага краю.

Польскія шовіністыя, асабліва польскае духавенства ў Віленшчыне, як маглі, перашкаджалі літоўскай інтэлігенцыі, а нават і ксяндзом літоўцам ў іх культурнай рабоце і павадырстве свайго Народу. Аднак, ужо да вайны ліцьвіны настолькі былі сьвядомымі нацыянальна, што ўсюды дамагаліся свае мовы ці ў школе, ці ў касьцёле *), і літоўская інтэлігенцыя здабывала што-раз то большыя ўплывы і значэньне, а разам з гэтым

*) Літоўцы пераважна каталікі.

што раз сільней дамагаліся ліцьвіны правоў для сябе, як для асобнага народу.

У гэтым дамаганьні ліцьвіны дужа часта, перад вайною, знаходзілі падтрыманьне з боку польскае дэмакратычнае інтэлігэнцыі гэтага краю і заўсёды памагалі ім беларускія адраджэнцы. Усе яны перад вайною мелі аднаго супольнага ворага—царскі абсолютызм і польскае абшарніцтва, якое воража адносілася да адраджэнскага руху ліцьвіноў і беларусаў.

Падчас вайны нямецкія ўлады пазволілі ў акупаванай імі Літве, дзе пераважвала літоўскае насельніцтва, зрабіць выбары ў Раду ў Вільню, які завецца па літоўску Тарыба.

Хоць гэтая Тарыба ня мела вялікага значаньня пры немцах, і ўся ўлара ў краі была ў руках акупантаў, але Тарыба ў гісторыі вызваленьня Літвы мае сваё аграмаднае значаньне. Ліцьвіны пераз гэтую Тарыбу заявілі аб тым, што імкнуцца да незалежнага дзяржаўнага жыцьця і самі хочуць кіраваць лёсам сваёе Бацькаўшчыны.

Пасьля расейскай Рэвалюцыі, калі ўпаў самадзяржаўны лад у Расеі і калі з гэтае „турмы народаў“ пачалі адходзіць акраінныя землі, дзе пераважвала нерасейскае насельніцтва, як Польшча, Эстонія, Латвія, Фінляндыя, Беларусь, урэшце адышлі ад Расеі і літоўскія землі з перавагай літоўскага насельніцтва, і з гэтых земляў утварылася цяперашняя Незалежная Літва з Коўнам, як сталіцаю краю.

Літва, як і Польшча утварылася ў выніку разгрому Нямеччыны і Расейскае Рэвалюцыі 1917 г. з аднаго боку і імкненьня гэтых народаў да адбудовы свае Незалежнасьці.

Заняўшы Вільню ў 1920 г., бальшавікі прад самым адходам з Віленшчыны, калі іх гнала польская армія, аддалі ліцьвіном Вільню, але яны толькі кароткі час былі ў гэтым горадзе, бо хутка адышлі з Вільні пад націскам польскага войска пад начальствам гэнэрала Жэлігоўскага.

Пасьля заняцьця Вільні войскам гэнэрала Жэлігоўскага ўвосень 1920 г., калі Вільня знаходзілася ў руках ліцьвіноў разгараецца паміж Літвою і Польшчай спрэчка за Віленшчыну.

Гэтая спрэчка выносілася перад установы Лігі Народаў, Рады Паслоў і інш., аж да 1922 г., калі ўсходнія граніцы Польшчы былі прызнаны Радай Паслоў і палажэньне Віленшчыны пад Польшчай адтрымала ўзмацаваньне і праўнае прызнаньне вялікіх дзяржаваў.

Літва пратэставала супроць гэтае пастановы і не хацела ўваходзіць з суседняй Польшчай у якія небудзь зносіны. Аж да гэтага часу — 10 сьнежня 1927 г. Літва заяўляла, *што яна лічыць сябе ў стане вайны з Польшчай,* дзеля захвату Вільні палякамі. У выніку такога пагляду Літвы паміж ёю і Польшчаю ня было ні якіх зносін: Нельга было пасылаць з Польшчы ў Літву пісьмаў, езьдзіць і вазіць тавары.

Палякі ў Літве мелі некалькі дзесяткаў школаў аж да апошняга часу, калі старшыня міністраў у Літве, Вальдэмарас, які захапіў уладу спосабам аружнага паўстаньня, павёў палітыку супроць польскага школьніцтва. Шмат вучыцялёў польскіх школаў апынулася ў турме, ад другіх адабралі права навучаньня, паддаўшы іх экзамену з літоўскае мовы, які мала хто з вучыцялёў здаў, і гэта адабрала ім права навучаньня ў польскіх школах.

Вальдэмарас насіўся з думкай увясьці ў Конституцыю Літоўскае Дзяржавы параграф, паводле якога сталіцай Літвы лічыцца Вільня.

У кастрычніку г. г. Польскі Урад у адказ на прасьледаваньне польскага школьніцтва зачыніў літоўскія школы ў Віленскім і Беластоцкім вая

---

Агр. Гр. Керніцкі,

## Як даў сабе раду гаспадар Васіль дый яго жонка Параска.

*(Пераклад з украінскага)*

Зямля ня скура, яе не нацягнеш. Дастаў я па сьмерці бацькі 4 дзесяціны зямлі, з хатай, стайняй, дый з хлявамі. За жонкай у пасагу ўзяў яшчэ 2 дзесяціны, вось і маю разам 6 дзесяцін. Зямлі той, як гаворыцца, „мала, к б жыць, а зашмат, каб памёрці“. Нябошчык—бацька меў 8 дзесяцін зямлі; але яму, б ч. яшчэ горш было, як мне з шасьцёма, і цяжка мы гаравалі.

Каб болей меці зямлі, думаў я нават, гэтага, ў Канаду ехаць, дзе, кажуць, яна надта танна каштуе, ды вось жонка Параска і слухаць аб гэтым не хацела, каб мы мусілі ўцякаці з роднае стараны.

А жонка мая была дужа зпабеглівая і разумная, — нават сельска-гаспадарчую школу скончыла.

Да работы не лянілася, усё першая на нагах, а апошняя спаць кладзецца, бо казала:

— „Хто раней ўстае, таму Бог больш дае“.

Дык вось і пан Бог даў столькі, каб хапіла для нас і для нашых дзяцей. Надоўга, здаецца, гаспадарку вядзём, а ўжо, дзякуй Богу, паўдзесяціны агароду дакупілі, даўгоў ня маем, нават бацькавы даўгі сплацілі.

Як мой бацька гаспадарку вёў?

Дык вось, бацька меў каня, — бо хто-ж бы яму поле абрабляў, — так сабе меркаваў стары.

Маці гадавала паўтары каровы, парсюка на падаткі, дый троху курэй, за якія сваркі з суседзямі ніколі не пераводзіліся.

Гаспадараваньне бацькі было надта простае: Засее крыху жыта, крыху пшаніцы, аўса, ячменю, па жыце і аўсе пасее канюшыны, пасадзе бульбы, ну, а як меў трохі часу, дык на біржу езьдзіў.

Радзіла мала. У пшаніцы бываў мак ды васількі, а так шмат, што сіня-чырвоны колер за вярсту біў у вочы.

У жыце, кукель і ізноў васількі, а ў ярыне ад сьвірэпіцы аж жаўцела; бульба неяк не ўдавалася, і каб не заработк, дык ня было-б нават чаго есьці, ня кажучы нават аб вопратцы. Фурманка бацьку таксама надта мала карысьці прыносіла, бо мусіў каню аўса дакупіць, апрач таго, конь зьядаў усю канюшыну, а для каровы адна толькі салома заставалася, зразумела, зімой нават лыжкі малака ў хаце ня было.

Сьвіньні зьядалі бульбу, бацька гірсу дакупляў, якая столькі каштавала, колькі за сьвіньні жыд даваў, а карысьць з усяго гэтага была толькі такая, што грош неяк ня так разлазіўся.

Бацька ўсё казаў, што лепш гаспадарыць не

водзтве і арыштаваў некалькі літоўскіх дзеячоў, з якіх каля 10 чалавек высяліў за граніцу. у Літву.

У выніку гэтаго востра паднялася ізноў спрэчка паміж Літвою і Польшчаю і нават пачаліся гутаркі аб вайне.

Літва і Польшча адняслыся з вырашэньнем спрэчкі да Лігі Народаў, якая 9 і 10 сьнежня г.г. разглядзела справу гэтае спрэчкі. На паседжаньні ў Жэнэве быў маршалак Пілсудскі і Вальдэмарас. Прыціснуты Марш. Пілсудскім Вальдэмарас ад імя Літвы заявіў, што Літва ня лічыць сябе ў стане вайны з Польшчай і хоча навязаць суседзкія адносіны з ёю.

Прадстаўнікі Польшчы маршалак Пілсудскі і міністар замежных справаў Залескі прынялі да ведама гэтую заяву і ад імя Польшчы заявілі, што Польшча прызнае незалежнасьць Літвы і цэласьць тэрыторыі Літоўскае Рэспублікі.

У выніку такога становішча Літвы і Польшчы, Рада Лігі Народаў прыняла пастанову якая ўносіць новую эру ў Польска-Літоўскія адносіны.

„Прымаючы да ведама ўрачыстую заяву прадстаўніка Літвы, што Літва ня лічыць сябе ў стане вайны з Польшчай і што дзеля гэтага паміж гэтымі краямі істнуе стан згоды, прымаючы да ведама, ўрачыстую заяву прадстаўніка Польшчы, што Польская Рэспубліка прызнае і шануе цалком палітычную незалежнасьць і цэласьць Літоўскае Рэспублікі, Рада Лігі Народаў радзіць абодвум урадам прыступіць у найхутчэйшым часе да беспасярэдніх перагавораў дзеля устанаўленьня добрых адносін, ад якіх залежыць згода, ахвяроўвае да распараджэньня абодвых старонаў прыязную помач Лігі Народаў і яе тэхнічных арганізацыяў у выпадку, калі-б гэтая помач была патрэбна, ў выпадку перагавораў, да якіх Рада заклікае".

У далейшым ідуць пастановы Рады Лігі Народаў, якія высьвятляюць спосабы інтэрвэнцыі Лігі Народаў у вырашэньні спрэчак паміж Польшчай і Літвою.

Такі стан рэчаў, пасьля прыняцьця Польшчай і Літвою пастановы Рады Лігі Народаў, адкрывае магчымасьць урэгуляваньня ўсіх спрэчак паміж гэтымі суседзкімі краямі.

## Да Беларуса Горадзеншчыны.

Варункі жыцьця нашых вясковых жыхароў-беларусаў, былі заўсёды нялёгкія. Цяжкае было іх жыцьцё да сусьветнае вайны 1914 г., калі панаваў расейскі монархізм, але ня лепшае яно і цяпер. Вайна зусім зруйнавала іх. Асабліва цяжкае жыцьцё тых нашых братоў-беларусаў, каторыя па прыказу царскае ўлады, павінны былі пакінуць свае родныя куткі і ўвесь свой дабытак, і ехаць далёка ад родных палёў у глыбіню Расеі, каб там шукаць прытулку. Пакінуўшы родную зямельку, яны з нуды і бяды гінулі на далёкай чужбіне, а хто і дажыў да шчасьлівага часу павароту да роднага краю, то таксама не знайшоў нічога добрага на сваім загоне. Усё тое што яны пакінулі: дом і іншую маемасьць, — згінула ў агні, альбо зруйнована войскамі. Прышлося ім пражываць у зямлянках і жыць у бядзе. І толькі мала хто мог трохі абмацавацца, па вароце на бацькаўшчыну. Ёсьць яшчэ і цяпер шмат такіх няшчасных беларусаў, якія пажабрацку жывуць, а ў лепшых выпадках, жывуць ў дварох ва ласцы паноў і выконваюць абавязкі панскіх парабкоў. Урад у меру магчымасьці ідзе на спатканьне такім бяздомным беларусам. Але патрабуючых так многа, што трудна адразу аказаць усім помач. Праўда, што ў гэтым незаўсёды патрапіць, бо замала зямлі мае ды толькі аднаго каня.

На гэтых 8-х дзесяцінах гаспадарка вялася так, што па гнаі садзілі бульбу, а берагі абсаджвалі бобам. Пасьля па бульбе сеялася пшаніца, па пшаніцы, ячмень, пад які аралася вясной, бо іржышнік па пшаніцы ўвосені ішоў на выпас.

Па ячмянёх, раз аралася і сеялася жыта.

Іншы раз пад жыта падсявалася крыху штучных гнаёў, якія купляліся ў жыдоў у мястэчку.

Па жыце на іржышніку доўга пасьвіліся былда і позна ўжо толькі падворвалася яго. Вясной аралі ды сеялі авёс з канюшынай, якую ў першым годзе касілі, а ў другім была пашя для сваіх і чужых кароў, якія бацька ці матка бралі на пракорм.

Яшчэ горш пайшла бацькава гаспадарка, як выдаў замуж Марысю, бо Янка не хацеў яе браць покі бацька ня даў у пасаг 2 дзесяціны. Зьмітрок у хуткім часе пасватаўся да другое мае сёстры Алёны, але таксама зажадаў 2-х дзесяцін, бо акурат каля яго поля ляжалі, дый па праўдзе нельга было і адмовіць.

Бацька даў і Алёне 2 дзесяціны, але неяк у хуткім часе занямог і пэўна ад жалю памёр, а мо' і з прыкрасьці, бо якраз прастудзіўся, як езьдзіў яблыкі прадаваць. А я застаў я сам на 4-х дзесяцінах. Параска якраз вярнулася з гаспадарчае школы. Былі мы з ёй суседзі, даўно зналіся, вось і пабраліся ў хуткім часе дый пачалі думаць, як вясьці далей сваю гаспадарку.

Ня гледзячы на тое, што за Параскай дастаў я яшчэ 2 дзесяціны, казала яна мне прадаць каня, каб ён нас з торбамі ня пусьціў. Шкада было мне каня, бо я з ім разам і вырас, прывык да яго, ну і з канём на гаспадара выглядаў, а не на нейка га бабыля. Сказаў я гэта Парасцы, але яна мне адразу адцяла: „Што нам па каморы, як парожна на двары" і я мусіў прызнаць ёй слушнасьць, але заразь запытаўся, хто і за што абробіць нам зямлю? А Параска кажа:

„Каровамі заарэш і каровамі зьвязем!"

„Бойся Бога!" — кажу, — „ды-ж людзі ў царкве на мяне пальцамі будуць паказваць". — „Гэта нічога, — кажа Параска, — пасьмяюцца, дый перастануць, а лепшыя гаспадары па тваіх сьлядох пойдуць". Так і сталася. Цяпер нават большыя гаспадары ў нашай вёсцы ня трымаюць коняў, а абрабляюць зямлю каровамі. Каня прадаў, матчыную кароўку і ялаўку таксама, а Параска купіла дзьве дойныя каровы і піхала ім, што магла лепшага, а мне аж вочы адчыніліся, колькі гэта можна мець ад 2 кароў малака, калі гадаваць іх не адной саломай; а колькі можна масла з гэтага малака зрабіць, дый па добрай цане прадаць, дый яшчэ і сьвіньні гадаваць можна!

(Працяг будзе).

вінаваты Ўрад, але бываюць вінаваты і самі беларусы. Часта, дзякуючы сваёй несьвядомасьці, беларусы папладаюць пад уплыў такіх людзе, каторыя замест помачы, яшчэ іх ашукваюць і выкарыстваюць для сваіх асабістых мэтаў і гэтым вельмі шкодзяць справе паправы свайго жыцьця і дабрабыту.

Каб налепшыць жыцьцё нашых беларусаў, трэба накіраваць іх грамадзкую дзейнасьць іпрацу на праўдзівы і пэўны шлях. Да гэтакай працы заклікае ўсім вядомая ў нашым краі „Беларуская Радыкальная Народная Партыя“, каторая выдае газэту „Беларускі Дзень“. Цэнтральны камітэт партыі знаходзіцца ў Вільні. Гэтая беларуская арганізацыя мае на мэце палепшаньне жыцьця беларусаў, як раўнапраўных жыхароў Польскае рэспублікі. Апіраючыся на Конституцыю, Б. Р. Н. П. ставіць свае вымаганьні на праўнай падставе і мае пасьпех у асягненьні сваіх мэтаў сярод беларусаў. Спатыкае ўсюды спачуцьце і падтрыманьне. Б. Р. Н. П. імкнецца распаўсюджваць сваю дзейнасьць сярод ўсіх беларусаў Польшчы. У гэтай мэце яна будзе адчыняць свае аддзелы ў меншых гарадох, у мястэчках і вёсках, дзеля таго каб даць магчымасьць беларускім жыхаром хутчэй заявіць аб сваіх патрэбах і праз сваю партыю дабіцца іх здаваленьня

У прэзыдыум Б. Р. Н. П. і выканаўчы камітэт увайшлі вядомыя мясцовым беларусам асобы, як шчырыя патрыёты свае Бацькаўшчыне і адданыя справе вызваленьня беларусаў. Галоўным заданьнем іх ёсьць: 1. Адчыненьня школаў у вёсках з выкладам у матчынай мове шкаляроў; 2. Адчыненьне коопэратываў, бібліатэкаў беларускіх; 3. Выдача лясоў на адбудову будынкаў у першую чаргу для пражываючых у зямлянках; 4. Надзел зямлёю ў першую чаргу мясцовых сялян; 5. Выдача доўгатарміновых грашавых пезык на палепшаньне гаспадарак і г. д.

Значыцца затрыманьне за вамі браты-беларусы. Арганізуйце ў сябе хаўрусы (гурткі) Б. Р. Н. П. Паведамляйце праз іх аб усім, што для вас трэба ў эканамічнай і культурна-прасьветнай справах. Ц В. К. Б. Р. Н. П. пастараецца даць вам патрэбныя парады і паможа вам у асягненьні вашых мэтаў і праўных патрэбаў. Толькі яшчэ раз пераджаю і прашу ня верыць тым, каторыя дзеля сваіх асабістых мэтаў абяшчаюць вам залатыя гары, але ў канцы канцоў нічога не даюць, а толькі зьбіваюць вас з толку і даводзяць да благіх рэзультатаў. І гэтак, у добры час, прыступайма да працы на карысьць дарагой нашай Бацькаўшчыны і беларусаў.

Сябра Выканаўчага Камітэту Б. Р. Н. П. ад Горадзеншчыны *М. Адамовіч*.

# З жыцьця Наваградчыны.

## Наваградзкі Зьезд радных.

11 гэтага сьнежня ў Наваградку адбыўся зьезд радных-беларусаў Наваградзкага павету. На зьезд гэны, склікапы з ініцыятывы радных-беларусаў Наваградзкага павятовага сойміку, зьехалася 94 радных з усіх валасьцяў павету. Паміж прыехаўшых мы бачылі і быўшага пасла Рагулю. Ен шмыргаў паміж людзьмі, яго маленечкая фігурка ўціскалася ўсюды. Пан Рагуля шукаў паміж раднымі прыхільнікаў свае партыі і сапраўды яму пашэнціла. Пашэнціла больш. чым са сходам, скліканым на 20 прошлага месяца, на каторы, як мы ўжо пісалі ў газэце ніхто не зьявіўся. Тутака пан Рагуля паміж 94 радных знайшоў, як паказала галасаваньне пры выбарах старшыні зьезду, аж цэлых трох сваіх прыхільнікаў. Кажуць, што гэта ўсё былі нейкія сваякі Рагулі, але як бы там ні было, — усё-ж такі прыхільнікі. Але вяртаюся да зьезду. Зьезд адчыніў ад імя ініцыятараў Міхал Чатырка, які падзякаваўшы за водгук радных на прызыў ініцыятараў, запрапанаваў выбраць старшыню зьезду. Паміж іншымі кандыдатамі, была выстаўлена і кандыдатура пасла Рагулі, які адтрымаў аж цэлых тры галасы.

На старшыню зьезду пераважнай большасьцяй галасоў выбраны быў М. Чатырка. У сябры прэзыдыуму былі выбраны Ян Гутта, Вечаслаў Пронька, Павал Хвасько і Пётра Раковіч.

Зьезд прыняў гэткі парадак:

1. Прывітаньні.
2. Даклад аб працы валасных камісіяў.
3. Спосабы дапамогі пры будове Беларускай Наваградзкай гімназіі.
4. Выбары трох кандыдатаў у Ваяводзкі зьезд самаўрадоўцаў.
5. Бягучыя справы.

Ад імя Беларускай Наваградзкай гімназіі прывітаў зьезд вучнёўскі хор. Сябры зьезду песьні ў роднай мове спаткалі шчырымі гарачымі воплескамі, так што хор пяяў песьню за песьняй, пакуль не змарыўся.

Пасьля ўзяў слова для прывітаньня староста Наваградзкага павету пан Грынеўскі. Кароткую прамову сваю пан староста закончыў пажаданьнем зьезду прадукцыйнай творчай працы на карысьць павету.

Далей ад імя зьезду радных Баранавіцкага павету прывітаў зьезд грам. Аўгень Міткевіч.

Найбольшым цікавымі былі справаздачы паасобных радных аб працах камісіяў валасных самаўрадаў.

Даклады гэныя далі адбітак імкненьняў і думак беларускага сялянства. А імкненьні гэныя і думкі вядуць да аднаго: да зямлі, асьветы і паляпшэньня гаспадаркі.

Зямлі мала, дый тая ў шнурочках, у кавалачках, малюсенькіх. Патрэбна камасацыя вёсак, але разам з тым патрэбна прырэзка зямлі малазямельным гаспадаром. Бо бяз прырэзкі няма як зьвярнуцца, няма як стаць на ногі гаспадару.

Вось агульны голас сялянства. Другое — асьвета.

Сялянства добра разумее патрэбу асьветы, разумее, што без асьветы, няма лепшай долі сялянству. А справа асьветы стаіць вельмі блага. Патрэбна асьвета ў роднай мове, бо іначай дзіця марнуецца. Тольлі праз 2-3 гады ледзь-ледзь навучыцца чытаць, бо не разумее таго, што гаворыць до яго настаўнік.

Ня кажучы ўжо аб беларускіх, але наагул школаў надта мала ў павеце. Дзіця, васьмёх год мусіць ісьці да школы іншы раз 3-4 кілёмэтры. Мусіць ісьці галоднае, дрэнна апранутае ў мароз альбо ў непагоду.

У такіх варунках бацькі часта змушаны астаўляць дзіцё і яно марнуецца, і расьце цёмным. „Паводлуг майго падлічэньня каля 40 процантаў

нашых дзяцей не карыстаецца школай", — казаў мне ў прыватнай гутарцы. адзін з радных. А тут штрафы накладаюць, проста няведама што і рабіць.

Палепшаньне гаспадаркі сялянства зноў-жа бачыць перш за ўсё ў прасьвеце. Патрэбны школы, якія-б вучылі сялян, як вясьці добрую гаспадарку, каб дабыць з яе магчыма больш добра. Разумее сялянства і значэньне коопэрацыі, адным словам зьезд выказаў, што радныя разумеюць патрэбу нашых вёсак. але адначасна выказаў і нешта іншае. Зьезд гэны паказаў зразуменьне радных, што будаваць новыя формы жыцьця ня так ужо лёгка. Да лепшае долі вядзе дружная ўпорлівая праца ўсяго сялянства, якое, не аглядаючыся ні на каго, павінна само падбаць аб сваіх справах. Характэрнай праявай гэтага зразуменьня была рэзалюцыя, прынятая ў сувязі з дакладам М. Чатыркі аб спосабах дапамогі пры будове Бел. Наваградзкай гімназіі. Дакладчык паказаў, што хоць часьць грошаў патрэбных на будову гімназіі павінны даць валасныя самаўрады, устаўляючы ў свае буджэты на наступны год адносныя выдаткі на будову гімназіі. Мала таго, сялянства павінна памагчы будове гімназіі дабравольнымі ахвярам ці то грашыма, ці збожжам і іншымі с.-гаспадарчымі прадуктамі, альбо працай сваёй і фурманкамі. І сапраўды, здаецца нам, што радныя зразумелі гэны прызыў пана Чаторкі, зразумелі што толькі дружна, супольнымі сіламі, не шкадуючы працы свае, можна будаваць і гімназіі, і школы, і лепшую сялянскую долю.

Дзеля браку месца ў газэце, ня маем магчымасьці даць больш падрабязной справаздачы аб ўсіх закранутых у дакладах пытаньнях. Аднак чуем, прынамсі, што там было закронута пытаньне аб стыпэндыях для найбольш здольных вучняў і студэнтаў, сялянскіх дзяцей. Добра было-б, каб кожная валасьць мела некалькі гэткіх стыпэндыяў. Далей відаць было з дакладаў, што павятовы соймік асыгнаваў грошы на куплю беларускіх кніжак для стварэньня бібліятэчак пры беларускіх школах.

Усе парушаныя балячкі знайшлі водгук у адносных рэзалюцыях, паміж якімі зьвяртае на сябе ўвагу рэзалюцыя, прынятая зьездам проці *„самаўрадовай"* працы знамянітага доктара(?!) Паўлюкевіча, які, ня маючы нічога супольнага з самаўрадамі, хоча выкарыстаць іх для нейкіх сваіх цёмных мэтаў.

Зьезд закончыўся выбарам 12 асоб (па адным ад кожнай валасьці), якім было даручана выбраць трох прадстаўнікаў на ваяводзкі зьезд радных. Выбранымі аказаліся: Міхал Чытарка, Ян Гутта, і Шэйна Тамаш. *Прысутны.*

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА.

### Канфіскацыя „Сялянская Ніва".

Апошні № „Сялянскае Ніва" за 14 сьнежня 1927 г. па загаду Камісара Ўраду сканфіскованы

### Спэктаклі Беларускага Народнага Тэатру.

Беларускі Народны Тэатр Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры выступае з прадстаўленьнямі ў Будславе 13, 14 і 15 сьнежня, у Даўгінове 17 і 18 сьнежня, у Куранцу 20, 21 і 22 сьнежня. З Куранца Тэатр маецца выехаць у Павятовую Вялейку.

## Стары дуб.

Стары, пахілы дуб стаіць.
Самотны ён—лісьцьцём шуміць.
Над рэчкай, ў даль што коціць воды,
Стары, пахілы дуб стаіць.

Шмат віхраў грознай непагоды
Прайшло — яшчэ шмат праляціць,
А ён — магутны сын прыроды —
Стары, пахілы дуб стаіць.

Крынічнай хваляю бяжыць
Жыцьцё людзэй, вадой бурліць...
Адзін — пакутаў іхніх сьведка —
Стары, пахілы дуб стаіць.

Маўляў, нібы завяўша кветка,
Прайдуць гады — я буду тлець,
Забудуць людзі... ён ледзь будзе
Сваім лісьцьцём па мне шумець.

*М. Васілёк.*

## Да усіх Беларусаў!

Ня кожнаму можа ведама, як цяжка здабыць вышэйшую асьвету сыном нашае беларускае вёскі па прычыне сялянскай нашай беднасьці. Але кожны добра ведае, што беларускае адраджэньне патрабуе шмат інтэлігенцкіх кваліфікованых сілаў. Сілы гэтыя растуць па жеры атрымліваньня нашаю моладзьдзю высокае асьветы, як на Бацькаўшчыне, так і за яе межамі.

Мы — беларуская, студэнская моладзь, згуртаваная ў свой Беларускі Студэнскі Саюз Віленскага Унівэрсытэту імя Стэфана Баторага, ня маючы ніякага падтрыманьня, прабіваем сабе шлях да навукі толькі сваімі ўласнымі сіламі ды натугамі нашых бедных бацькоў, жыхароў вёскі.

Каб мець магчымасьць утрымаць на гэтым шляху сваіх зусім незаможных калегаў-студэнтаў, якія мусяць дайсьці да пастаўленае перад сабою мэты, сярод нас паўстала думка зьвярнуцца да ўсіх сьвядомых Беларусаў і спачуваючага нам грамадзянства іншай нацыянальнасьці з заклікам прылучыцца да грамадзкага падтрыманьня нас пасільнаю матар'яльнаю падмогаю, якая палегчыць нашае жаданьне ўзброіцца ведаю, так патрэбнаю нам для будучае творчае працы на славу і карысьць Нашага Народу!

Ахвярованыя падмогі просім перасылаць па адрэсе: **Wilno, Białoruski Związek Akademicki ul. Św. Anny № 2.**

Старшыня Саюзу (—) *Т. Куніцкі.*
Сэкрэтар (—) *С. Станкевіч.*

Іншыя газэты просім перадрукаваць.

**Чытайце, выпісвайце і пашырайце „БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ".**

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Як трэба даіць каровы.

Перад самым даеньнем вымя і цыцкі трэба вымыць і выцерці чыстай рызінкай, таму, што яны дужа часта бываюць абраблены ў гной, дык каб часам гэты гной не папаў у малако. Вымыць з мылам рукі і выцерці, каб былі сухія. Апаласнуць даёнку, каторая і дагэтуль была зусім чыстая. Пры даеньні найлепей садзіцца з левага боку, бо правай рукой лягчэй можна выдаіць заднія тугія цыцкі, а калі карова ўжо прывучана даіцца з правага боку, дык адвучаць яе ад гэтага нявартa. Найлепш прывучаць карову даіць з левага боку адразу пры першым ацяленьні яе.

Прыступаючы да даеньня, перш на перш, вымя трэба вымякшыць рукамі, пацiскаючы яго даволі моцна, ад чаго выдойваньне малака будзе паўнейшае. Першыя струйкі малака выдойваюцда вон, бо малако, якое знаходзіцца ў самых цыцках, мала мае́ць клустасьці, а ў кароў, у каторых слабыя цыцкі, цераз працочыны можацъ пападаць пыл і бактэрыі.

Даіць найлепш кулаком, а не цягнуць за цыцкі пальцамі, гэтым робім карове менш дражлівасьці.

Ніколі нявapтa змочваць цыцкі ў час даеньня малаком, як гэта іншыя робяць, бо ад гэтага цыцкі трэскаюцца. Даіць трэба хутка, без застановак, раўнамерна. Многа пены ў даёнцы даказвае́ць тое, што дальшчыца выпаўніла даеньне правідлова.

У час даеньня ня можна строга абходзіцца з каровай, а прытрымлівацца больш ласкавага абходжаньня, бо дрэннае абходжаньне можа падзейнічаць на дачу малака.

Падаіўшы трэба паглядзець, ці часам малако мае́ць які-колечы іншы від (чырвонае ці сіняе малако) і калі так, дык трэба гэтую карову паказаць ветэрынару.

Выдойваць карову трэба зусім чыста да апошняй каплі, за тое, што апошняе малако бывае дужа густое і мае́ць да 50% клустасьці. Гэтае густое малако знаходзіцца ў тонкіх малочных жылах, адкуль трудна выдойвае́цца. Нячыстае і няпоўнае выдойваньне мае́ць выпадак затыканьня гэтых тонкіх працочын, зацьвярдзеньня вымя і гэтым губляе́ць частку дзеля вытворнасьці малака. Нячыстае выдойваньне псуе́ць найлепшыя малочныя каровы.

Калі малако будзе выдаена, вымя трэба лёгенька намасажаваць, а потым ізноў падаіць. Масаж робіцца так: адставіўшы ў бок даёнку, дальшчыца бярэ ў абедзьве рукі правую палову вымя, сьціскае яго, а затым робіць тое самае і з левай палавінай. Потым сьціскае абедзьвюма рукамі пярэднюю палавіну вымя і ўсьлед за гэтым заднюю. Пасьля гэтага перацiскае́ць кожную чэцьверць вымя асобна, падтоўквае некулькі разоў лёгенька па-парна цыцкі ўверх.

Нарэшце, падтаўкнуўшы ўсё вымя ўверх, прыступае да аканчальнага даеньня.

Пасьля даеньня, вымя і цыцкі выцерці суха рызінкай.

Гэтыя правілы даеньня пажадана каб ведала кожная гаспадыня.

*Янка Тарыкаў.*

## Як найлепш карміць сьвіньні.

Практыка гадоў даказала, што карменьне сьвіней цёплай, ці халоднай жыжкай зьяўляецца некарысным. Аднак, дагэтуль гэты спосаб кармёжкі стасуецца ня толькі нашымі вясковымі гаспадынямі, але навет і тымі, хто гадуе сьвіней на прадаж.

Найвыгаднейшым, бо найболей карысным зьяўляецца кармленьне сьвіней халодным густым цестам.

Ёсьць спэцыяльныя дасьледчыя станцыі, дзе практыкуецца, як найвыгадней карміць свіней — і вось гэтыя досьледы паказалі, які корм найлепшы. Толькі несьвядомасьць сялян і недаверые да досьледаў навукі ўстрымоўвае сялянства ад найвыгаднейшага спосабу гадоўлі і кармленьня сьвіней, якія маюць стацца падтрыманьнем кожнага гаспадара, калі іх разумна гадаваць і добра карміць.

Цеста прыгатаўляецца з грубае мукі або отрубяў, вымешаных з вадой так, каб мяшанка была густою, даваць яе можна сьвіньням прымяшаўшу з варанай бульбай, сырымі пасечанымі буракамі, дробнай сечкай з канюшыны альбо проста бяз гэтых дамешак.

Дзеля таго, што сьвіньні патрабуюць шмат вады, трэба даваць ім чыстую ваду перад, ці пасьля яды. Ваду трэба наліваць у чыстае карыта, калі з гэтага карыта кормяцца сьвіньні цестам, дык перад тым, як класьці цеста, ваду трэба з карыта выліць.

Замест вады можна даваць худое малако, ці сыраватку.

Вараны рэдкі корм, калі застаецца ў карыце, дык хутка стыне і кісьне, пры кармленьні цестам гэтага ня бывае.

Яго можна накладаць у карыта болей, чымся можа зьесьці сьвіньня адразу. Дзеля гэтага аблягчаецца праца пры кармленьні сьвіней, бо можна даваць корм 2 разы ў дзень — а 7 гадзіне раніцаю і а 2 гадзіне папалудні. Даная раней паша мусіць быць выедзена на гадзіну перад новым кармленьнем.

Якія-ж карысьці ад кармленьня сьвіней цестам?

1. Свіні найлепей выкарыстоўваюць корм, добра пражованы і засьлінены.
2. Могуць есьць больш корму.
3. Гэты корм мае заўсёды тую самую цяплыню і ня кісьне.
4. Ня трэба коштаў на апал і працы на варэньне.
5. Кармленьне сьвіней 2 разы ў дзень дае ашчаднасьць на рабочыя сілы і пазваляе́ць кормным сьвіньням мець болей супакою, дзякуючы чаму хутчэй укормліваюцца сьвіньні і яны ня так лёгка абʼядаюцца, калі адразу кладзецца больш цеста ў карыта.
6. Пры корме цестам сьвіньня ня прыймае лішняе колькасьці вады, якая раствapae жалудачныя соці, абцяжвае жалудак і блага ўплывае на почкі.

Пры корме рэдкім кормам (супам, пойлам, рэдкім цестам) сьвіньні аддаюць вельмі многа ма-

чы, сьвінарнікі тады вымагаюць падсьцілкі, становяцца мокрымі і халоднымі, чаго ня можа быць пры кармленьні сьвіней. Цёплае пойла трэба даваць апарасіўшымся мацёрам у першы час пасьля апарасеньня, яны тады выдзяляюць больш малака.

Парасятам, якія кормяцца па ўбой, трэба даваць корм ня два, а тры разы, тады разьвіваецца ў іх большы апэтыт.

(„Tygodnik Rolniczy") Пераклаў *Ш.*

---

## Як даглядаць куры зімою.

У нас зімою часта-густа чуеш бедаваньне, што куры кінулі нясьціся, дык дзеля чаго запытаймася? Адказ адзін—ня было адпаведнага догляду. Перш за ўсё, узімку ў нас куры садзяць у падпечак, ці зусім трымаюць на двары.

У першым выпадку брак месца, у другім холад шкодзіць курам.

Мусім мець адпаведны, цёплы куратнік, калі жадаем, каб куры нясьліся; такі куратнік не патрабуе быць занадта цёплым, вось абы вада ў ім не замярзала. Далей трэба куры карміць. На корм, перш за ўсё, пойдзе збожжа, якое лепш даваць раніцай, рассыпаючы яго перад куратнікам і пакрываючы зьверху мякінай.

Пакрываньне мякінай патрэбна дзеля таго, каб куры маглі капацца, а капаючыся адтрымоўваць патрэбны для іх рух, ад якога яны змогуць разагрэцца і ня будуць жырэць. (Жырэньне таксама шкодзіць на носку, бо яечнік у іх абрастае жырам).

Збожжа даём на тры курыцы адну жменю.

Калі куры выбяруць збожжа, дык заганяем іх ізноў да куратніка. У паўдні даём ім нейкую мяшанку, ці пасечаную звараную бульбу, ці буракі, ці гарох, ці боб, ня надта жыдка разбаўлены цёплай вадой. Трэба таксама даць ім пяску, альбо патоўчанае скарупы ад яек; добра даваць курам нейкія мясныя адпадкі, ці дробна патоўчаныя косьці, прымаючы пад увагу тое, што ўлетку куры жывяцца пераважна чарвякамі і рознымі жучкамі.

Добра летам абтрасаць з дрэваў хрушчы, апарваць іх варам, пасьля сушыць і сьціраць на муку, якую нерахоўваючы, напр., у закаркаванай бутэльцы, узімку дамешваць да паўдзённае мяшанкі.

Увечары трэба ізноў даць збожжа і ўжо крыху болей, калі раніцай давалася жменя, дык увечары трэба даць паўтары. Апрача таго трэба раніцаю перад збожжам і увечары пасьля збожжа даць курам напіцца цёплае вады.

Дык вось, даглядаючы адпаведна свае куры, ня будзем наракаць, што яны зімой кідаюць нясьціся, а невялікі клопат, які будзе ад гэтага догляду, зусім аплаціцца яйкамі. *S.*

---

## Як перасаджваць старыя фруктавыя дрэвы.

Старыя фруктавыя дрэвы перасаджваюцца ў вельмі вынятковых выпадках і робіцца тады гэтак: улетку вакол дрэва, якое маюцца перасаджваць, капаюць канаву, адступіўшы ад самага дрэва на якіх аршыны паўтары, а то і менш, залежна ад велічыні дрэва, глыбінёй для яблыняў, сьліваў і вішань — на які аршын, для груш — у аршыны паўтары. Капаючы канаву, ня можна рыдлёўкай перасякаць карэньняў, дзеля таго, што рыдлёўкай карэньні не адрэзваюцца правідлова, а разломліваюцца, калечачы гэтым самым дрэвы. Канаву капаць трэба вельмі асьцярожна, і таўсьцейшыя карэньні, якія пры гэтым будуць напатыкацца, перапілоўваць, найлепш, аднаручнай пілкай і перарэзаныя месцы абгладжваць вострым нажом.

Гэткім чынам абкопаны вакол дрэва ком зямлі, пры абрэзаных карэньнях абкладаюць дошчачкамі ізноў засыпаюць гэтую канаву. Каб утрымаць раўнавагу дрэва, трэба таксама абрэзаць частку галінаў, дзе яны растуць загуста.

Увосень, як абсыплюцца лісьця, або вясной, пакуль яшчэ не распусьціліся почкі, прыгатоўленае для перасаджваньня дрэва, выкінуўшы ізноў зямлю з канавы — выварочваюць рычагамі і перавозяць на месца, прыгатоўленае для перасадкі. Пры гэтым яма для перасаджваньня дрэва мусіць быць прыгатоўлена перад гэтым, каб выкапанае дрэва адразу ў яе і ўставіць; велічыня гэтае ямы мусіць быць залежна ад кому зямлі пры карэньнях.

Трэба яшчэ зазначыць, што зямлі, якая знаходзіцца пры карэньнях выкапанага дрэва, ня можна абтрасаць і пры перавозцы трэба гэты ком абвязаць рагожай ці чым-небудзь іншым. *Г.*

---

## Способы размнажэньня фруктавых дрэваў.

**(Месцы для сеяньня насеньня для перасаджваньня аднагодных дрэўцаў).**

Сад можна разьвясьці ці купляючы прышчэпы гатовыя ці засеяўшы самому яблычнае насеньне, якое трэба пасьля аднаго году перасаджваць і тады прышчэпліваць. Апошні способ, хаця і займае больш часу, аднак таньнейшы, тым болей, хто мае мэту разьвясьці сад большы. Грунт наагул пад школку трэба выбіраць лепш лёгкі, чымся цяжкі і добра, калі ён крыху пясчаны, бо вільгаць вельмі шкодзіць, а нават не дае магчымасьці прыжыць насеньню і прыжыўшаму разьвівацца. Цьвёрды і цяжкі грунт, як гліна, таксама не надаецца пад школку.

Абрабляць грунт, на якім маець быць пасаджана або пасеяна насеньне, трэба мелка, каб маладыя дрэўцы ня пушчалі даўгіх карэньняў, якія пры перасаджваньні трэба многа ўкарочваць на шкоду дрэўца. Школкі ня можна разводзіць у местах цяністых, замкнёных ад сьвету, бо пасьля, пры перасаджваньні ў месцы адкрытыя, дрэўцы вельмі лёгка могуць пагінуць. Таксама ня можна замнога ўгнойваць грунту, на якім хто мае разводзіць школку, дзеля таго, што на ўгноеным і добра выраблены грунце вельмі хутка растуць і разьвіваюцца маладыя дрэўцы, але пасьля пры перасаджваньні ў грунт бяднейшы, ня маючы дагодных варункаў далейшага разьвіцьця, пачынаюць хварэць і нават некаторыя зусім не прыжываюць, а прыжыўшыя толькі па пэўным часе, як добра запусьцяць у грунт карэньні, пачынаюць расьці нармальна.

Паміж перасаджанымі дрэўцамі на цьвёрда-

ватым грунце вельмі карысна налажыць сьвежага гною, таўшчыні ў 1—$1^1/_2$ вяршка, але пры гэтым трэба прыняць пад увагу, што гной не павінен датыкацца да дрэўца, а ляжаць ад яго на які вяршок. Звычайны попел з печкі таксама зьяўляецца вельмі добрым ўгнаеньнем для ўсялякіх дрэўцаў.

Школку заўсёды дзеляць на дзьве часьці: адна — для сеяньня насеньня, а другая — для перасаджваньня ўзышоўшых дрэўцаў. Месца, вызначанае для школкі, за год да сеяньня насеньня, вясной перакопваюць і, калі грунт зусім бедны, кладуць крыху гною, а ўвосень таго самага году яшчэ раз перакопваюць. На другую вясну, як адтаець зямля, перакопваюць ізноў гэтае месца, разьбіваюць усе камякі і барануюць граблямі. У школцы боразны робяць шырыні аршына ў паўтары, даўжыні вольнай, але нявысокія, каб не расплываліся вясной; толькі на мокрым і халаднаватым грунце боразны робяць крыху вышэйшыя.

Аб сеяньні насеньня і перасадцы будзе далей.

*К. Г.*

# ПЧАЛЯРСТВА.

### Вулей сыстэмы Дадана-Блатта.

Вулей гэтае сыстэмы пачаў цяпер выпіраць сабою і здабываць месца пасьля вульля варшаўскага, сыстэмы Лявіцкага, які меў тут у нас на Беларусі сваё панаваньне, а пачаў траціць яго толькі дзеля таго, што ня маець наставак, якія б давалі магчымасьць пчаляру, падчас багатага мёдабраньня, сабраць большыя запасы ў вульлі, не патрабуючы часта выкручваць мёду і даючы час выстаяцца яму і пасьпець. Хаця ў апошнія часы гэтую патрэбу наставак у вульлі Лявіцкага, зразумеў, дапасаваў і ўвёў у практыку вядомы польскі пчаляр Станіслаў Бжоско, аднак-жа гэтае ўвядзеньне не знайшло ў нас водгуку, а вулей Дадана, раз уварваўшыся і здабыўшы сабе прызнаньне, усё з большаю і большаю сілаю пашыраецца ў нас цяпер. Я не хачу тут ганіць аднаго і хваліць другога, тым болей, што гэтыя вульлі Лявіцкага і Дадана зусім прыдатныя для нашага клімату і для нашай мёданоснай краіны-Беларусі.

Некаторыя пчаляры ганяць вулей Дадана, дзеля таго, што ў ім ёсьць дзьве сьценкі неашалёваныя, г. зн. не падвойныя, якія падчас зімоўкі пчолак прапускаюць многа холаду, але ў гэтым невялікая бяда, трэба толькі ашалёваць гэтыя сьценкі так, як ашалёваны сьценкі баковыя, альбо калі не ашалёваць, то трэба ўставіць цёплыя падушкі ўнутры і гэтыя труднасьці і недагоднасьці будуць пераможаны.

Некаторыя зноў-жа ганяць гэты вулей дзеля таго, што адчыняецца зьверху, матывуючы гэта тым, што падчас зімы, альбо халоднага лета, цяплыня паветра ня можа затрымацца ў ім, уцякаючы цераз верх. Бязумоўна, што на гэта трэба зьвярнуць вялікую ўвагу, бо сапраўды, калі верх у вульлі Дадана ня будзе добра агледжаны на зіму альбо падчас халоднага лета, то гэта можа дрэнна адбіцца на здароўі вульля, дзеля таго, што пчолы, пазбаўленыя цяплыні, якая, паводлуг закону фізыкі, трымаецца ўверсе, а калі ў гэтым версе ёсьць дзіры, то яна можа ўцячы і дзеля гэтага вулей пчолак можа зьмінтрэжыцца ад холаду; гэтаму ўсяму аднак-жа можа памагчы пчаляр, глядзячы руплівым вокам і дбаючы аб сваіх пчолках.

Вулей Дадана складаецца з корпусу-гнязда і з некалькіх наставак і з ад'емнай накрыўкі. Па меры патрэбы, калі гняздо ўжо будзе запоўнена, накрыўка падымаецца і на корпус ставіцца настаўка з рамкамі, калі і гэта настаўка будзе запоўнена, то ставіцца другая і так аж да трох наставак, бо звычайна болей ня ставіцца.

Гняздо вульля Дадана-Блатта квадратнае, гэтак сама і надстаўкі. Як гняздо, так і настаўкі, зьмяшчаюць па 12 рамак. Гняздо і настаўкі ўдаўжкі і ўшыркі маюць па 450 мілімэтраў. Вышыня гнязда 320 мілім. Вышыня настаўкі 167 міл. Гнездавая рамка маець ушыркі 435 мілім., удаўжкі 300 мілімэтраў, таўшчыні 37 міл. Надстаўковыя рамкі маюць ўшыркі 435 міл. таксама, як і гняздовыя рамкі, удаўжкі аднак жа болей, як напалавіну каротшыя, бо ўсяго 135 мілімэтраў.

Верхняя ліштва рамак маець ўдаўжкі 470 мілімэтраў, а гэта дзеля таго, каб зьбіўшы рамку, мець з абодвых яе бакоў выступы па 10 болей меней мілімэтраў, пры помачы якіх рамка можа быць павешана зьверху ў пазох, якія робяцца ўверсе баковых сьценак вульля дзеля гэтае мэты.

Адлежнасьць рамак, як у гняздзе, так і ў настаўцы, ад сьценак вульля павінна мець $7^1/_2$ міл. Адлежнасьць гнездавых рамак ад споду 13 мілімэтраў. Адлежнасьць ад вярха гнязда да споду настаўковых рамак 7 мілімэтраў.

*Сьценкі* вульля — пярэдняя і задняя,—я называю пярэднюю і заднюю тыя сьценкі, якія паложаны па канцох ад'емнага-рухомага дна альбо па канцох рамак, — маюць увышкі гэтулькі, што і самае гняздо г. з. 420 мілімэтраў. У гэтых сьценках робяцца пазы для навешваньня рамак. Бакавыя сьценкі вышыню маюць большую на 25 міл. у доле г. з. 345 міл., а гэтая большая вышыня тлумачыцца тым, што ўнізе гэтых сьценак павінен быць паз, у які ўсоўваецца дно вульля.

*Дно* вульля ёсьць, як я ўжо казаў, рухомае, што маець вялікае значэньне пры чышчэньні вульля, а дзеля гэтага і для яго гігіены. Ушыркі маець 465 мілімэтраў, удажкі 475 міл. Дно вульля ня выстаець за яго сьценкі, але шчыльна ўваходзіць у пазы дзьвёх бакавых сьценак. Пазы, у якія ўваходзіць дно, маюць увышкі 25 міл. і ўшыркі 10 міл. У канцы дна, з таго боку, дзе знаходзіцца ляток, выстаюць дзьве ліштвы, на якія кладзецца масток, пахілены трошкі ўніз, а гэта дзеля таго кладзецца гэты масток, каб пчолкі, вылятаючы з вульля, альбо прылятаючы з поля, мелі дзе спыніцца. Масток гэты маець шырыню такую самую, як і дно вульля, а даўжыню 460 мілім.

*Лятoк* вырэзваецца ўнізе пярэдняе сьценкі і маець 240 мілім. Па бакох лятка з яго вонкавага боку, ёсьць адумысныя засовачкі з абедзьвюх старон, а гэта дзеля таго, каб можна было, у меру патрэбнасьці, пабольшыць, альбо, як зімою, паменшыць шырыню лятка. Засовачкі гэтыя могуць быць бляшаныя альбо дзеравянныя. Над лятком некаторыя пчаляры часта робяць казырочкі, каб абараніць пчолак ад дажджу і ад буры. Дно ў вульлі павінна быць трошкі наклонена да лятка, а гэта дзеля той прычыны, каб дажджавая вада, якую часта можа загнаць у вулей вецер

праз лятох, магла назад па гэтым суклоньні выцячы, не спараджаючы ў вульлі сырасьці.

На вонкі цэлы корпус вульля абнесены ліштваю, якая прымацоўваецца да сьценак вульля зьверху. Ліштвы гэтыя шырокія 30 мілім. маюць пахіл да зямлі і служаць да таго, каб дажджавая вада не пападала ў сьценкі, альбо ў вулей а сьцякала на зямлю.

*Накрыўка* вульля робіцць з дошчак, цалёвак якія прыбіваюцца да падставаў, маючых на два бакі схіл; падставы накрыўкі маюць выгляд раўнаплечнага трыкутніка, і зусім падобныя да шчытоў нашых сялянскіх хатаў. У верхнім купе гэткага шчыта робяцца для лепшай вэнтыляцыі дзірачкі, па дзьве цалі ў дыямэтры, якія забіваюцца драцянымі сеткамі, дзеля таго, каб пчолкі не маглі ўлятаць і вылятаць праз гэтыя, не для іх зробленыя дзіры.

Вулей Дадана Блатта, паміма таго, што спатыкаецца з крытыкаю некаторых пчаляроў, можа быць зусім уведзены ў нас на Беларусі, дзеля таго, што адпавядаюць нашым мясцовым варункам, г. зн. нашаму клімату, разумеецца, калі ўсе сьценкі гэтага вульля будуць падвойныя і калі вулей гэты, як і кожны іншы добра будзе дагледжаны на зіму; па-другое гэты вулей адпавядаець і нашай меданоснай краіне, бо ў ім можа, разам з настаўкамі зьмясьціцца шмат мёду, якога мы не патрабрем зараз-жа выкручваць, ня даўшы яму выстаяцца і пасьпець ў *запячатаваных* чарачках, а гэтае самае галоўнае, каб мы мелі сьпелы мёд, які заўсёды лічыцца сапраўдным мёдам, ніколі ня кісьне і даражэй цэніцца ў продажы.

Па-трэцяе, вулей Дадана-Блатта здабыў сабе прызнаньне ўсюды, дзякуючы найгалоўнейшаму таму, што маець шырокую, ляжачую рамку. Такая рамка маець вялікую *плоскасьць* і ніколі не перашкаджаець матцы чарвіць. Бо ведама, што матка пры чарвеньні любіць рабіць вялікія эліпсаічныя кругі, а гэта і тлумачыць тое, што пчолкі ў вульлёх Дадана заўсёды на вясну скарэй размнажаюцца і мацнеюць, чымсьці ў вульлёх варшаўскіх Лявіцкага, дзе матка пры чарвеньні ня можа ўзяць такога разгону, бо рамкі там вузкія, ляжачыя.

*Пчаляр.*

## Гігіенічна-ратаўнічы аддзел.

### Барацьба з сухотамі.

(Гл. № 38 „Б. Д.“).

**Грамадзкія спосабы барацьбы з сухотамі.**

Няма нічога даражэйшага на сьвеце, як здароўе. Хворы, які-б ён ня быў, багаты ці бедны, дзеля папраўы свайго здароўя, ніколі ня лічыцца з матар'яльнымі абставінамі, высыпаець апошнія грошы, прывозіць або езьдзіць да розных дахтароў, а больш цёмныя людзі, да знахароў і шаптуноў. Бацькі дзеля ўратаваньня свайго дзіцяці згадзіліся-б хутчэй аддаць сваё жыцьцё. Гэтакія прыклады здараліся ў сярэднявеччы ў часе эпідэміяў воспы, калі людзі мёрлі, як мухі; бацькі дзякуючы забабонам, што хвароба зьяўляецца „карай Божай“, часта прыносілі ў ахвяру сваё жыцьцё, абы толькі ўратаваць сваё дзіцянё. Цяпер з поступам навукі зьнiклі гэтыя перасуды, бадай хіба можна пачуць іх дзе-небудзь у глухой вёсцы або ад ксяндза з касьцельнай амбоны, гэта вельмі няўдачнае рэлігійнае застрашваньне, з якім ужо мала хто лічыцца.

Найважнейшае права—гэта дабро чалавецтва, а найважнейшым дабром зьяўляецца здароўе. Здароўе і сілы грамадзянства—гэта найвялікшы скарб народу. Толькі здаровы чалавек здольны да творчай, карыснай працы, якая ёсьць крыніцаю народнага багацьця. Дык з гэтага вынікае, што трэба шанаваць ня толькі сваё, але і іншых здароўе, а можна гэта зрабіць ня толькі тады, калі чалавек захварэець, трэба падумаць аб гэтым загадзя, так, як кожны гаспадар думаець, працуючы цэлае лета, забясьпечыць сябе на цэлы год хлебам.

Дзеля гэтага ўва ўсіх грамадзянствах добра згарманізованы апарат дзяржаўны, павятовы, валасны і грамадзкі, калі яны добра функцыянуюць, сваёю дбаласьцяй і шчырай працай у гэтым напрамку, патрапяць усьцерагчы не аднаго здаровага і хворага чалавека ад сьмерці, асабліва тады, калі яны будуць працаваць супольнымі сіламі. У большай меры прычыняюцца да гэтага дабрадзейныя таварыствы, творачыя здравотныя інстытуцыі, аб якіх будзе ніжэй.

Ніводная іншая хвароба не забірае столькі ахвяраў у першай палове вытворчага веку (ад 15 да 40 году жыцьця чалавека), як сухоты. Вытворчы век лічыцца да 60 гадоў.

Дзіцянё, якое ўмірае ў першых гадох свайго жыцьця, не змагло яшчэ вярнуць грамадзянству выдаткаў, паложаных на яго праз агранічаньне працы [illegible], калі была ў цяжарнасьці, на яго дарастаньн[illegible], выхоўваньне, кармленьне, адукацыю, лячэньне [illegible] г. д. Чым пазьней, чым большым умірае дзіця, тым большую страту наносіць яно для бацькоў, для грамадзянства і данага народу.

Калі памрэць чалавек, які мае больш як 60 гадоў, то праз свой век працай сваей ня толькі вернець, панесеныя на яго грамадзкія і бацькоўскія выдаткі, але яшчэ вынагарадзіць іх, павялічваючы гэтым народнае б[illegible]гацьце звыжкай свае вартасьці — прадукцыйнасьцяй працы. Чалавек, які ўмірае ў 20 — 30 гадох, у палове вытворчага веку, ня змог яшчэ выказаць гэтай прадукцыйнасьці, а ледзь патрапіць вярнуць толькі частку панесеных на яго ўзгадаваньне коштаў.

Бачым з гэтага, як важнае значэньне мае жыцьцё кожнага чалавека, а лячэньне яго ў асаблівасьці.

Каб лячыць хворага, трэба распазнаць хваробу, а памагчы ў гэтым можа толькі доктар. Праўда, па вёсках лечаць на адзін спосаб, напрыклад, як адна жанчына знахарка лечачы хворых, была навучана адным панам, якому абрыдла сваім жабрацтвам. Той парадзіў ёй узяцца за знахарства, кажучы хоць-бы такія словы: „калі паможа Бог, дык паможа й мох, а калі не паможа Бог, дык чорт цябе забірай“, аднак здарылася, што і пан захварэў на скулу ў горле, трэба-ж было, што і тут дзе доктары не маглі шмат парадзіць, яе паззалі, і калі паўтарыла гэтыя словы, ня выдзержаў пан ад сьмеху, натужыўся і скула лопнула; вядома, за сваю навуку добра не вынагародзіў. Дык бачым, знахарства тут не адыгрывае ніякай ролі ў лячэньні, скарэй можа пашкодзіць, чым памагчы. Галоўная роля тут прыпадае доктару, які мусіць адразу паставіць рас-

пазнаньне хваробы і лячыць яе ў гэтым напрамку. Бяз дай прычыны абы каму ня ўсякі можа плаціць за лячэньне. тым больш. што для распазнаньня сухотаў ў зачаткавым стане патрэба не аднае візыты ў доктара. а асабліва не аднаго абсьледаваньня сплёвінаў (флегмы) хворага. Дык дзяржава. павет. валасьць. дабрадзейная здравотная інстытуцыя павінны зрабіць досьледы гэтыя даступнымі асабліва для бедных і незаможных людзей, творачы спэцыяльныя лябараторыі, якіх нажаль у Заходняй Беларусі ёсьць вельмі і вельмі мала. Калі і ёсьць доктар, дык няма лябараторыяў. Пажадана было-б. каб гэтыя лябараторыі завялі перш абазнаўшыся з гэтым досьць многія ў нас аптэкі. Не павінна толькі тут вынікаць такога вялікага шантажу, як з рэнтгэнам, які пачынаюць, насьлядоўваць і больш прахітрыя знахары. У гэтых лябараторыях пад наглядам доктара павінны быць дасьледаванымі сплёвіны хворага на сухоты.

Як вядома, сплёвіны сухотніка маюць у сабе заразкі гэтае хваробы. Заразкі гэтыя маюць ня толькі цяжка хворыя, але і зусім амаль здаровыя людзі, якія нават ня ведаюць аб тым, што маюць хворыя грудзі і толькі дэведваюцца аб гэтым найчасьцей ад доктара, калі зьяўяцца да яго па іншай прычыне, бо самая хвароба лёгкіх з прычыны сухотаў у зачатку не дае ніякіх боляў, дык і хворы ня ведае нічога аб сваёй хваробе. Вось гэта і ёсьць якраз тым, з чым найгорш бароцца.

Хворы, маючы ў сабе заразкі сухотаў, зьяўляецца адначасна пераносчыкам і расьсявае заразкі хваробы паміж людзьмі здаровымі нават і ў пачатку яшчэ ўкрытых сухотаў, калі хворы аб гэтым ня ведае, а доктар ня выкрыў.

Трэба тут мець на ўвазе аддзяленьне такіх хворых ад здаровых, або перасьцерагчы іх, навучыць. як маюць паступаць. З натуры рэчаў сухоты даюцца вылячыць, калі ёсьць адпаведнае лячэньне і калі яно началося ў пару, калі хвароба яшчэ ня вельмі зацягнулася. Нават і ў цяжкіх выпадках удаецца вылячыць. Дзеля гэтага кожны хворы павінен старацца дастацца ў адпаведную да яго хваробы лячніцу. Валасьць, дзяржава зважаючы на гэта і каб як мага даўжэй захаваць жыцьцё чалавека, бо гэта ляжыць у яе інтарэсе, павінна за гэта ўзяцца. А перш за ўсё гэта залежыць і ад нас саміх; калі само грамадзянства гэтага захоча. дык і лячэньне і стан здароўя будзе адпавядаць вымаганьням самой натуры, бо натура (прырода) лечыць чалавека. але чалавек па сваёй натуры ёсьць працоўным прыродзе.

У гэтай мэце дзяржава, валасьць, касы хворых арганізуюць і строяць шпіталі (бальніцы), санаторыі, ахоўваючыя дамы і г. д., дзе хворых лечаць паводле сучасных мэтодаў і пагляд аў лякарскае навукі.

Тых хворых, якіх стан хваробы ня ёсьць для іх пагражаючым. або калі хворы ня хоча ісьці лячыцца ў бальніцу, або яго існаваньне зьвязана з пэўнай працай. якая пярэчыць гэтай хваробе, або праца яшчэ ня ўплывае ў шкоднай меры на хваробу дык такіх хворых лечаць амбуляторыйным спосабам, высылаюць іх на летнія дачы на вёску, або проста. калі немагчыма прытасаваць гэтых жаданьняў, лечаць дома. Чым хутчэй хворы вылячыцца, тым хутчэй перастае ён быць крыніцай заразы" шкоднай для грамадзян.

Бачым. што ў інтарэсе кожнага грамадзянства і народу ёсьць барацьба з сухотамі, з хваробай, якая забірае пераважна палавіну ахвяраў у першай палове вытворчага веку.

Статыстыкай сьцьверджана, што ў Польшчы кожныя 10 мінут памірае адзін чалавек на сухоты ці 140 асоб у пару. Барацьба калі і вядзецца, дык у местах, не пранікла яшчэ яна на вёскі, да жыхароў-земляробаў, якіх у нас ёсьць $35^0/_0$; тут сухоты пашыраюцца найбольш, што даказалі вайсковыя лякарскія перагляды навабранцаў.

Цяпер у Польшчы вядуць энэргічную барацьбу з сухотамі блізка 108 таварыстваў і 75 супроць сухотных амбуляторыяў, а лік ложак у санаторыях даходзіць да 3 000.

Гэта ўсё на цэлую Польшчу, дык затое і лічба ахвяраў. прыведзеных у параўнаўчай статыстыцы (гл. папярэдні № 37). вельмі высокая. Але калі ўнікнем глыбей і паглядзімо, як гэтыя справы прадстаўляюцца ў нас на г. зв. „Крэсах“, дык жуда бярэ чалавека.

Добра, калі ёсьць які „шпіталік“ на 20—30, а то і 50 кілёмэтраў у акрузе, найчасьцей для звычайных хворых і іншых заразных, але калі хворы на сухоты. дык гэты пераважна заўсягды сядзіць дома і ніякіх мераў ня прымаець у лячэньні, бо для такіх няма месца ў шпіталі, а пасылаць у Закапанае ці іншыя курорты немагчыма. Найлепш гэта пастаўлена ў вайсковых установах, але і гэтыя, калі навабранец хворы, дык даючы яму катэгорыю, зноў бяз ніякага лячэньня адпраўляюць гіне да хаты, дзе чалавек павольна сохне і ўрэшце гіне ў росквіце веку. Такога хворага спрактыкованае вока можа пазнаць на першы пагляд.

Дык нічога дзіўнага, што ўва ўсіх цывілізованых гаспадарствах урад і валасьць пасьвячаюць гэтаму найбольш матэр'яльных і моральных падмогаў грамадзянству.

У кароткіх словах прадстаўма тут, у чым выяўляецца гэта барацьба з сухотамі.

1) Абарона здароўя, асабліва дзяцей.
2) Палепшаньне варункаў жыхарства.
3) Барацьба з алькагалізмам.
4) Карыстаньне з кліматычных варункаў.
5) Ладжаньне лазьняў парных, сонечных і інш.
6) Гігіенічнае выхаваньне.
7) Падтрымліваньне ўсякага роду спартаў, як сьлізганьне, плаваньне, далейшыя пешыя прагулкі, ладжаньне гульняў на сьвежым паветры, гімнастычныя групы і г. д.
8) Абсаджваньне дрэвамі пляцоў, дарог і вуліц, асабліва ў месцах, цесна заселеных жыхарствам. Нагляд за чыстатой і інш.

Месцы лячэньня хворых ёсьць розныя:

*Санаторыі*—лячніцы, куды прыймаюцца хворыя, якія могуць там вылячыцца ад свае хваробы. Дзеяльнасьць санаторыяў да гэтага часу выказала, як шмат хворых можна яшчэ ўратаваць, для сям'і і грамадзянства ад перадчаснай сьмерці і зрабіць іх няшкоднымі для здаровых.

*Бальніцы сухотнікаў,* — куды прымаюць хворых на грудзі, на сухоты, або могуць быць і спэцыяльныя аддзелы сухотнікаў пры агульных бальніцах. Бальніцы гэтыя найчасьцей ляжаць у месьце, больш даступныя для гарадзкога элемэнту, чым для вясковага.

*Кліматычныя станцыі і курорты,* паложаныя ў сьцяпох, месцах лясістых, гарыстых і пры моры.

*Прытулкі для цяжка хворых* — тут ужо ня йдзецъ аб вылячэньне, але ўтрыманьне хаця-б таго стану, які ёсьць, абы прадоўжыць так дарагое кожнаму жыцьцё. У гэтых прытулках хворыя знаходзяць шмат лепшую апеку, чым у сябе дома ў цеснай і беднай, часта супольнай, кватэры. Што найважнейшае, аддзелены яны ад здаровых, не пагражаюць пераняесеньню хваробы на сваякоў і суседзяў.

*Паўсанаторыі* — блізка гораду паложанныя ў лесе, куды хворыя з места могуць даяжджаць і прабываць там ад рана да вечара ў працягу вясны, лета і восені.

*Амбуляторыі для сухотнікаў*. Тут хворым даюцца розныя лекі, палягчаючыя недамаганьні хворых.

*Апекі — або ахоўваючыя дамы*. Апякуюцца хворымі і іх сем'ямі. Хворыя гэтыя лечацца дома. Мэтай іх: 1) Спраўджаць, ці хворы мае сухоты. 2) Даваць хворым такія памешканьні, каб найменш маглі шкодзіць сваёй сям'і. 3) Спраўджаць ці хто з сям'і ня мае зачаткаў сухотаў. 4) Дастаўляць дэзынфэкуючыя лекі, якія забіваюць заразкі або бактэрыі сплёвінаў, дастаўляць пляначкі. 5) Вучыць хворых, як маюць захоўвацца каб не пашкодзіць сабе і іншым. 6) Памагаць хворым, выдаючы ім узмацняючыя арганізм прадукты, як малако, масла, кэфір, тран, кумыс і інш. 7) Каб хворы ня спаў разам з здаровым дастаўляць ложкі. Гэта робіцца найбольш у дзяржавах, якія больш разумеюць уласныя інтарэсы і інтарэсы грамадзянства. У нас апекі ў поўнай меры заменены касамі хворых, але гэтыя найбольш адносяцца да мястовых масаў і заўсягды істнуюць толькі ў горадзе. З усяго гэтага бачым, што найбольш пакрыўджана вёска, якая маючы найменшы доступ да ўсіх гэтых лячніцаў, дае найбольш пагражальныя вынікі.

Дзеля зразуменьня сутнасьці самой хваробы ў далейшым будзе аб прычынах, якія выклікаюць сухоты. **Т. К.**

# Корэспондэнцыі.

## Адносіны між сялянамі і адміністрацыяй двароў князя Мірскага.

*(Вёска Царабостынь, Стаўпецкага пав.)*.

Цяжка жывёцца цяпер нашаму сялянству. Мала таго, што яго ў поўнай ступені ўціскае ўлада, але далася ўжо ў знакі і адміністрацыя суседніх двароў князя Мірскага, перш за ўсё, адміністрацыя двароў Вуша і Цэтра. Галоўны камісар двара Вуша надта блага адносіцца да сялян. Прычыны гэтага няведамыя, хіба, можа, толькі затым, што камісар Мільчаркоўскі — паляк. Як толькі скаціна ўзыйдзе на панскую сенажаць, дык зараз дворныя старажы займаюць і гоняць у двор, а там конь скубануў разоў два травы, ці не—гаспадар адрабляй дні два-тры, а то й больш. Асабліва з старажоў выдзяляецца сваёю варожасьцю і няпрыхільнасьцю да сялян Віцэнты Гіховіч. Здараліся нават выпадкі, што гэты „верны" князяў паслушнік адбіраў у селяніна, праяжджаўшага цераз князява балота, каня і вёў у двор. Аднак-жа, ня гледзячы на сваю шчырасьць у службе і вернасьць князю, гэты сторож мае ў вёсцы і „сваіх" людзей. Гэтымі людзьмі зьяўляюцца багатыры—сяляне нашае вёскі, якія за бутэльку ці дзьве гарэлкі езьдзяць на панскую сенажаць на начлег цэлы год. А гэты сторож на гарэлку і пачастунак вельмі ласы, толькі няма ад каго і што ўзяць, хаця-ж і самі сяляне нічога яму ня хочуць даваць.

Як толькі ў вёсцы ў каго-небудзь радзіны, вясельле і на'т хаўтуры, гэты сторож сядзіць у варотах цэлы дзень і чакае, каб гаспадар паклікаў у хату і добра пачаставаў. Аднак, гаспадару цяпер не да стоража, бо перш за ўсё ён мусіць добра пачаставаць солтыса.

Паглядзіш на Віцэнтага — чалавек бедны ўдома жонка, дзеці, нават і рад-бы памагчы яму, але калі ўспомніш, як ён адносіцца да сялян, дык толькі сэрца сьціскаецца ад віду гэтага шчырага панскага паслугача. Нічым ад Гіховіча ня розьніцца яго калега, сторож з двара Цэтра—Васіль Дзівак.

Гэты „дзівак"—сын беднага селяніна з вёскі Радунь, Мірскае воласьці, выгнанага горам служыць у двары князя Мірскага. Гэты Васіль мусіць забыўся, што ён паходзіць з пад сялянскае страхі, што матка ў калысцы сьпявала яму нашы мужыцкія песьні, што служба ў двары не навек, і прадаўся князю з целам і душою. Ён цяпер вельмі любіць, калі яму кажуць: „пане", і абходзіцца з сялянамі, куды горш, як яго таварыш Віцэнты. Гэта доказвае хоць-бы тое, што сяляне вёскі Кожава, выведзеныя з цярпеньня яго шчыраю для князя службаю, аднаго разу так зьбілі беднага Васіля, што ён ледзь дацягнуўся да двара. Аднак, ня гледзячы на гэта, ён хутка паправіўся і ізноў пачаў з нязменшаю стараннасьцю верна служыць пану. Не магу ня ўспомніць камісара двара Цэтра гр. Сакалюка.

Хоць ён сам па нацыянальнасьці украінец, але на яго сяляне нічога ня маюць кепскага сказаць, бо ён абходзіцца са ўсімі ў параўнаньні з іншымі камісарамі і пад-камісарамі вельмі добра. Калі ўзяць наагул адносіны між адміністрацыяй двароў і сялянамі, то яны заўсёды кепскія, але адносіны адміністрацыі з паліцыяй добрыя. Помню, як аднаго разу прыехаў у вёску Даўгінава сэквэстратар-паліцыянт і войт, каб зьбіраць з сялян падаткі, забіраючы ўсё, што папала, і калі сэквэстратар спытаўся ў войта, што трэба паехаць і забраць што-небудзь за падаткі ў аднэй абшарніцы, дык войт сказаў, што ў яе няма чаго ўзяць. Так, паночкі, у селяніна ёсьць што ўзяць, а ў пані, якая мае дзесяцін 30—40 зямлі, штук дзесяць коняй — у яе няма чаго браць! Што-ж, крук круку вока ня выкале.

У гэтым годзе сяляне правілі дарогі ня толькі на сваіх абшарах, але і на абшарах князя Мірскага, у той час, калі дарога між сялянскімі палямі з вёскі Качаноў у в. Царабостынь і цяпер засталася непапраўленаю. Хто ў гэтым вінават? Вінавата ўлада валасная, вінават і сам солтыс. Калі ўзяць пад увагу, што ў князя ў некалькі разоў больш зямлі, чым у сялян, а тымчасам ён ня даў ніводнага работніка на напраўку дарог і нават адміністрацыя двара Цэтра рабіла труднасьці ў дастаўцы фашыны на высыпку дарогі. Чаму сялянам робіцца крыўда: дзеля чаго ўлада для аднаго ёсьць маткаю, а для другіх мачахаю?

*А. Бяздольны.*

